# Голас Радзімы

ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА
БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»

№ 2 (2196) 10 студзеня 1991 г. Выдаецца з 1955 г. Цана 8 кап.






**За некалькі дзён да прыходу навагодніх урачыстасцей, калі Стары год канчаткова дамовіўся з Новым і рыхтаваўся здаваць паўнамоцтвы, у сталіцы Беларусі было дасягнута яшчэ адно пагадненне. Кіраўнікі парламентаў Беларусі і Украіны паставілі свае подпісы пад дакументам, які называецца «Дагавор паміж Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікай і Украінскай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікай».**
**(Матэрыял аб пагадненні «Выйсце ва ўзаемнай падтрымцы» змешчаны на стар. 2).**

**Фота С. КРЫЦКАГА.**

# АД «ПОЛАЦАКА» ДА «АРАЎ-ПАРКУ»

**У Беларускі культурны цэнтр «Полацак» пад Кліўлендам таварыства «Радзіма» ўжо ведае дарогу: тут неаднаразова былі яго прадстаўнікі, карыстаючыся шчырай гасціннасцю суайчыннікаў Злучаных Штатаў Амерыкі. Але такой прадстаўнічай, шматколькаснай дэлегацыі, уключаючы слынную «Жывіцу», як на XIX сустрэчу беларусаў Паўночнай Амерыкі, яшчэ не пасылала, — аж 17 чалавек.**

**Дні, праведзеныя ў «Полацаку» і іншых месцах, дзе селяцца і збіраюцца на розныя ўрачыстасці і сустрэчы беларусы ЗША, будуць помніцца доўга, а ўбачанае і пачутае нешта зменіць у нас у адносінах адзін да аднаго.**

**Пра гэта і расказвае ў сваіх дарожных нататках член дэлегацыі Беларускага таварыства «Радзіма», якая па запрашэнню Беларуска-амерыканскага Задзіночання (БАЗА) прыехала на XIX сустрэчу ў «Полацак», пісьменнік і вучоны Леанід КАЗЫРА.**

...Над зямлёй яшчэ стаяла ціхая летняя раніца, калі наш аўтобус, крыху паблукаўшы па ваколіцах Кліўленда, пад'ехаў да беларускага селішча «Полацак»....

Хутка, імкліва ляціць час... Здаецца, яшчэ зусім нядаўна мы з заслужаным артыстам БССР Віктарам Скарабагатавым хадзілі па гэтых мясцінах, вялі нетаропкую гаворку з тутэйшымі беларусамі, наракалі на ненармальны ў цэлым характар узаемаадносін Беларусі са сваімі дочкамі і сынамі, што па волі лёсу і жыццёвых абставін апынуліся далёка ад родных гоняў, думалі-гадалі, як паправіць становішча, каб у нашых кантактах дасягнуць хоць бы такога ўзроўню, які маюць латышы, літоўцы, эстонцы, украінцы, армяне, грузіны, рускія...

Шчыра кажучы, не маглі мы тады з Віктарам растлумачыць ні сабе, ні нашым субяседнікам, як і чаму так сталася, што Беларусь выраклася тысяч сваіх людзей на чужыне, навесіла на іх ярлыкі антысаветчыкаў, калабарацыяністаў, нацыяналістаў, бандытаў... Гэта ж трэба: дзесяткі, сотні тысяч здраднікаў... Расказаць якому-небудзь французу ці немцу, дык тыя падумаюць, што Беларусь — гэта нейкі інкубатар прайдзісветаў і хрыстапрадаўцаў... І заставалася нам толькі марыць ды спадзявацца (надзея памірае апошняй), што наша перабудова ў рэшце рэшт дазволіць накіраваць узаемадачыненні Радзімы-маці са сваёй замежнай дыяспарай (а гэта каля двух мільёнаў чалавек) у натуральнае рэчышча, і свежая плынь праўды, справядлівасці, шчырасці разбурыць на сваім шляху старыя напластаванні дагматызму, прадузятасці і падазронасці...

Цяпер, праз два гады, я глядзеў на знаёмыя краявіды, пазнаваў... і не пазнаваў іх. Вунь удалечыні лясок і будынак старога «Полацака», крыху бліжэй люстрам паблісквае малое азерца, а зусім побач, на невялікім пагорку, пад шатамі дрэў, прытулілася сядзіба заснавальнікаў і кіраўнікоў «Полацака» Кастуся Калошы і Сяргея Карніловіча... Але няма тут высокіх стройных соснаў, што стаялі тады на папары, няма і таго просценькага плоту з шулцамі і жэрдкамі, які толькі ўмоўна акрэсліваў тэрыторыю «Полацака», няма і самога папару... Зараз тут узняўся вялікі гмах новага грамадска-культурнага цэнтра кліўлендскіх беларусаў.

Змянілася аблічча «Полацака», змянілася сёе-тое і ў нашых адносінах з суайчыннікамі...

— Ну, як даехалі? Стаміліся, напэўна? — перапыняе мае думкі голас Сяргея Карніловіча. Ён ні кропелькі не змяніўся: такі ж бадзёры, ветлівы, з прыязнай усмешкай на твары.

(Працяг на 5-й стар.).

ГАДАВІНА ДЫЯГНАСТЫЧНАГА ЦЭНТРА

# НІБЫ КВІТНЕЮЧЫ ААЗІС

**Падобных медыцынскіх установ яшчэ два гады назад у СССР не існавала. Цяпер іх у краіне 26, а ў 1995 годзе будзе ўжо 150. Чым выкліканы гэты бурны рост! Паспрабуем адказаць на прыкладзе дзейнасці першага ў нашай рэспубліцы Мінскага дыягнастычнага цэнтра, які быў адкрыты ў канцы 1989 года.**

Сюды мы прынеслі, скажам шчыра, і тую глухую незадаволенасць узроўнем медыцынскага абслугоўвання, якая пануе сярод большасці насельніцтва. Незадаволенасць гэта заснавана на ўласным адмоўным вопыце, прыкрых назіраннях, адмоўных эмоцыях, выкліканых практыкай арганізацыі айчыннай аховы здароўя.

З такім вось настроем мы пераступілі парог «установы аховы здароўя прынцыпова новага тыпу». Менавіта так у папярэдняй гутарцы адрэкамендаваў нам цэнтр яго галоўны ўрач Анатоль Талкачоў. І ён, у чым мы пераканаліся, не перабольшваў. На фоне ўсеагульнага пагаршэння жыцця (што, натуральна, закранула і працэс лячэння людзей), бедных, абшарпаных бальніц і паліклінік, асабліва ў глыбінцы, дзе нярэдка дэфіцыт — самае простае абсталяванне, лякарствы і прэпараты, цэнтр здаўся нам квітнеючым аазісам у грунтоўна запушчанай айчыннай сферы аховы здароўя. Чыстыя, утульныя калідоры і холы, мармуровыя лесвіцы, недарагая, але з густам падабраная мэбля гаварылі пра тое, што тут знешняму выгляду надаюць пастаянную ўвагу.

Кінулася ў вочы адсутнасць чэргаў каля дзвярэй кабінетаў: прыём наведвальнікаў вядзецца па папярэдняму запісу. І ўвогуле мы вымушаны адзначыць высокую ступень арганізацыі працы медперсаналу. Дзейнічае ён, ва ўсякім разе нам так здалося, як добра адладжаны механізм. Факт тым больш дзіўны, што калектыў цэнтра зусім малады. Станаўленне яго працягваецца. А працэс гэты, як вядома, адбываецца не заўсёды гладка, па намечанаму плану. Асобная гаворка аб тым, чаго каштавала, колькі нерваў спаліла А. Талкачову і яго калегам рэканструкцыя пад цэнтр будынка былой 28-й кансультацыйнай паліклінікі. Чым толькі ні даводзілася займацца медыкам: удакладняць і ўтрасаць пытанні фінансавання, выдзялення фондаў, забеспячэння.

У выніку гэтых намаганняў адбылося пераўтварэнне звычайнага будынка ў прывабную ўстанову, куды апаратыўна былі пераведзены ўсе медслужбы. Таксама не губляючы часу была праведзена перападрыхтоўка ўрачоў.

Калі самаадданасць медыкаў у іх імкненні зрабіць цэнтр непадобным ні на што іншае ў рэспубліцы выклікае павагу, то абсталяванне, на якім яны працуюць, — захапленне!

— Беспрэцэдэнтная ў БССР апаратура пераважна вытворчасці фірмаў Японіі, ЗША, ФРГ, Англіі, Швецыі. Каштавала яна каля 3 мільёнаў інвалютных рублёў. Яшчэ зусім нядаўна атрымаць такое абсталяванне ўстанове практычнага медабслугоўвання было немагчыма. Мы нават і не марылі пра гэта. Яно ў асноўным выкарыстоўвалася ў буйных клініках, у навукова-даследчых мэтах. І, натуральна, было недасягальным для шырокіх колаў насельніцтва, — расказвае Анатоль Васільевіч.

Цяпер жа ў кожнага жыхара рэспублікі ёсць магчымасць прайсці поўнае абслед[illegible]не, атрымаць тут дакладны [illegible]ягназ захворвання, што потым значна паскарае і робіць больш эфектыўным працэс лячэння.

Першы год — пачатак біяграфіі. Але і за нядоўгае існаванне ў цэнтры многае паспелі зрабіць. Па-першае, гэт[illegible]зесяткі тысяч абследаван[illegible]пацыентаў, сярод якіх нямала дзяцей і іншагародніх. Кіраўніцтва цэнтра вытрымала нялёгкую барацьбу з Міністэрствам аховы здароўя СССР за тое, каб надаць афіцыйны статус кансультацыйнага аддзялення. Усё ж здолелі пераканаць у відавочнай неабходнасці спалучаць пад адным дахам працу ўрачоў-кансультантаў і дыягностаў для атрымання больш дакладнага заключэння дыягназу.

За год былі наладжаны карысныя сувязі і кантакты з кафедрамі мединстытута, розных навукова - даследчых інстытутаў медыцынскага профілю, якія ўжо выліліся ў канкрэтныя формы супрацоўніцтва. Іх спецыялісты таксама вядуць у цэнтры прыём пацыентаў.

Сёння Мінскі цэнтр паступова набывае функцыю рэспубліканскага. Як галаўная медустанова ў гэтай сферы, цэнтр усё больш актыўна ажыццяўляе арганізацыйна-метадычную і практычную дапамогу іншым дыягнастычным цэнтрам, якія зараз ствараюцца ў Беларусі. Так, у Мінскім цэнтры ёсць што паказаць, пра што расказаць. Напэўна, таму «айцы горада» часта прывозяць сюды іншаземцаў. Гэта таксама прымушае трымаць форму, акрамя таго дапамагае наладжваць дзелавыя сувязі. А яны вельмі патрэбны, асабліва з тымі фірмамі, на абсталяванні якіх працуюць медыкі. Бо моц і унікальнасць цэнтра ў яго замежнай апаратуры, але яна адначасова і яго «ахілесава пята». Валюта тут — праблема нумар адзін. Для нармальнай работы абсталявання цэнтру штогод трэба як мінімум 150 тысяч інвалютных рублёў. Нам паказалі каштоўны прыбор, які нельга далей выкарыстоўваць з-за адсутнасці рэагентаў, інакш кажучы, своеасаблівых рэактываў. Скончыліся. Новую партыю можам набыць выключна за валюту і толькі ў той фірмы, якая вырабляе гэты прыбор. Бо рэагент — сакрэт фірмы, і кожны вырабляе яго па свайму «рэцэпту». У кожнай фірмы ён асаблівы і да прыбора іншага вытворцы не падыдзе. Таму рэагент надоўга, да канца эксплуатацыі абсталявання, прывязвае спажыўца да канкрэтнай фірмы.

Вельмі непакоіць Талкачова і трубка рантгенавага тамографа, рэсурс якой няўмольна набліжаецца да фінішу. Каштуе яна, між іншым, прыкладна 30 тысяч інвалютных рублёў. А колькі яшчэ такіх дарагіх запчастак спатрэбіцца ў будучыні?

Інафірмы, трэба сказаць, разумеюць становішча цэнтра (што, напэўна, выклікана зацікаўленасцю ў савецкім рынку), і ад іх прадстаўнікоў у ходзе сустрэч часам паступаюць карысныя прапановы. Так, па ініцыятыве вядомай японскай гандлёвай фірмы «Іскра Індастры» падпісаны нядаўна пратакол аб намерах па арганізацыі сервіснага абслугоўвання медыцынскага абсталявання, якое яна пастаўляе ў Мінск і рэспубліку.

Праблема, дзе знайсці валюту, якой так усім і паўсюдна катастрафічна не хапае, вісіць над цэнтрам як дамоклаў меч. Да вялікай радасці медыкаў, знайшоўся спонсар — вытворчае аб'яднанне імя Кастрычніцкай рэвалюцыі.

— Яго калектыў вырашыў пералічыць нам са свайго рахунку 50 тысяч інвалютных рублёў. Гэта надзвычай своечасовая і вялікая дапамога. Калі ўлічыць, што па нашай просьбе Саўмін рэспублікі выдзеліў 55 тысяч валюты, то мы быццам бы пакуль забяспечаны ёю, але ці надоўга? Таму мне хочацца звярнуцца да кіраўнікоў іншых буйных прадпрыемстваў, якія вядуць экспартна-імпартныя аперацыі, з [illegible]сьбай далучыцца да, павер[illegible] вельмі няпростага рашэння аб'яднання імя Кастрычніцкай рэвалюцыі. Яго работнікам, безумоўна, таксама патрэбны дэфіцытныя рэчы, якія м[illegible] набыць сёння толькі за ва[illegible]у. Але яны здолелі ўзняцца над асабістымі інтарэсамі дзеля здароўя людзей,— гаворыць Талкачоў.

**Л. ТУГАРЫН.**

## МІНСКАЕ МЕТРО: ДРУГАЯ ЛІНІЯ

**Напярэдадні Новага года прынята ў эксплуатацыю другая лінія Мінскага метрапалітэна. Шасцікіламетровая стальная падземная траса звязала буйныя жылыя раёны паўночна-заходняй часткі горада з прамысловай паўднёва-ўсходняй.**

**— З уводам шасці новых станцый сярэднясутачны пасажырапаток у метро павялічваецца на 100 тысяч чалавек. Акрамя таго, за кошт адмены часткі аўтобусных маршрутаў чакаецца экалагічны выйгрыш,— сказаў першы намеснік начальніка—галоўны інжынер Мінскага метрапалітэна Уладзімір Мацюнін.—Пры збудаванні тунеляў у некаторых выпадках нашы спецыялісты аказаліся піянерамі. Напрыклад, упершыню ў краіне выканана праходка непасрэдна пад фундаментамі будынкаў, прыменены вібраізалятары, якія рэзка зніжаюць узровень шуму.**

**Работы вялі ў складаных інжынерна-геалагічных і горадабудаўнічых умовах, скажам, прыйшлося перасячы абводненыя грунты і перабудаваць частку рэчышча ракі Свіслач. Давялося «паваяваць» з вельмі агрэсіўным асяроддзем пад тэрыторыяй былога аб'яднання «Бальшавік» і дрожджавага камбіната. Справа ў тым, што безгаспадарчасць гарбароў і харчавікоў, якія адкрыта захоўвалі хімрэактывы, прывяла да моцнага разбурэння бетоннай кладкі тунеля.**

**Сёння метрабудаўнікі прадаўжаюць другую лінію ў абодва бакі. Яе працягласць перавысіць 10 кіламетраў. Дзве пары новых станцый плануецца здаць у 1993 і 1994 гадах.**






**НА ЗДЫМКАХ: першы намеснік Старшыні Вярхоўнага Савета Беларускай ССР С. ШУШКЕВІЧ адкрывае другую лінію Мінскага метро; станцыя «Трактарны завод».**

**Фота П. КАСТРАМЫ.**

ВУЧЫМСЯ НА ЗАХАДЗЕ

З генеральным дырэктарам вытворчага аб'яднання «Смаргоньсіліката б е т о н» Т. Голубевай я сустрэўся напярэдадні яе паездкі ў Італію. Таццяна Генадзеўна не хавала свайго хвалявання і нецярпення: стажыроўка ў італьянскай фірме павінна была стаць для яе галоўнай падзеяй адыходзячага года.

Голубева не памылілася ў сваіх прадчуваннях. Поўная ўражанняў і задум, вярнулася яна нядаўна на роднае прадпрыемства з замежнай камандзіроўкі. Прывезла і дыплом італьянскай фірмы.

# ДЫПЛОМ ПАНІ ГОЛУБЕВАЙ

На сертыфікаце, падпісаным яе генеральным дырэктарам доктарам Джавані Печы, змешчаны наступны тэкст: «Гэтым сведчыцца, што пані Голубева Таццяна Генадзеўна прайшла курс навучання ў галіне эканамічных даследаванняў «Намізма» ў горадзе Балонья ў Італіі па праграме «Рыначная эканоміка, менеджмент і маркетынг».

Трэба сказаць, што пані Голубева, як называлі яе італьянцы,—адзіная жанчына, якая атрымала такі ганаровы дыплом. У групу з дванаццаці слухачоў Акадэміі народнай гаспадаркі пры Савеце Міністраў СССР, накіраваных на стажыроўку ў Балонью, акрамя яе, увайшлі адны мужчыны.

Савецкія стажоры—у асноўным маладыя, перспектыўныя кіраўнікі, якія заканчваюць курс навучання ў акадэміі, атрымалі выдатную магчымасць сутыкнуцца наяве з заходнім рынкам, формамі і метадамі работы італьянскай фірмы. Яны не толькі праслухалі курс лекцый аўтарытэтных спецыялістаў па рыначнай эканоміцы, менеджменту і маркетынгу, але і актыўна ўдзельнічалі ў дыскусіях, практычных занятках, дзелавых гульнях. Напрыклад, у зададзенай складанай сітуацыі самастойна прымалі і потым абгрунтоўвалі тое ці іншае рашэнне, узяўшы на сябе функцыі работніка фірмы.

Таццяна Генадзеўна, зрэшты, як і яе калегі, з годнасцю выходзіла з няпростых сітуацый. Італьянскія спецыялісты высока ацанілі яе здольнасці, навыкі і ўменне. А яна сама дзякуе лёсу за дадзеную магчымасць пераняць лепшы заходні вопыт.

Пахвальнае імкненне кіраўніка ажыццявіць вопыт, набыты ў час зарубежнай стажыроўкі, у канкрэтныя справы. Мінуў час, калі мы не толькі ў палітыцы і ідэалогіі, але і ў эканоміцы ўсяляк адмяжоўваліся ад Захаду, стараліся не заўважаць тое прагрэсіўнае і перадавое, што паспяхова там укаранялася. Надыходзіць час дзелавога супрацоўніцтва, і трэба спаўна выкарыстаць дадзеныя магчымасці, каб хутчэй, без сур'ёзных страт, прайшло станаўленне рыначнай эканомікі ў нашай краіне.

**Л. ЮНЧЫК.**

## ВЫДАННІ «ГОЛАСУ РАДЗІМЫ»

Уладзімір Конан

БОСКАЯ І ЛЮДСКАЯ МУДРАСЦЬ



**На заканчэнне Скарынавага года ў «Бібліятэчцы «Голасу Радзімы» выйшла кніжка Уладзіміра Конана «Боская і людская мудрасць». Яна прысвечана жыццю і творчасці нашага славутага земляка, асветніка і першадрукара Францішка Скарыны. У кніжцы расказваецца пра адраджэнне навуковай спадчыны вучонага, якое на гэты раз супала з культурна-нацыянальным адраджэннем Беларусі і беларусаў.**

**НА ГЭТЫ РАЗ заўвага не выпадковая. За 500 гадоў, што прайшлі з часу нараджэння Ф. Скарыны, цікавасць да яго асобы і дзейнасці то ўспыхвала, то затухала пад уплывам падзей у свеце і краі, якому ён належаў. Аўтар называе Ф. Скарыну майстрам, пісьменнікам, вучоным, лекарам, лінгвістам, біблеістам, прадпрымальнікам-выдаўцом. Ён апярэдзіў свой час, і мусіць таму сучаснікі і цэлыя пакаленні іх нашчадкаў не зразумелі ўсёй велічы яго грамадзянскага і навуковага подзвігу. Нават апошнім часам, зазначае У. Конан, калі ў сувязі з 500-годдзем з дня нараджэння Францішка Скарыны адбываецца выдавецкі бум, у грамадскай свядомасці застаецца інерцыя недаацэнкі агульнаславянскага значэння першаадкрыцця нашага земляка як славянскага пісьменніка. На працягу стагоддзяў забывалі, недаацэньвалі спадчыну Ф. Скарыны на Беларусі, быццам спраўджваючы вядомую прымаўку: няма прарока ў сваёй айчыне.**

**Даследаваннем спадчыны выдатнага беларускага вучонага ў розныя часы займаліся вучоныя розных нацыянальнасцей, і толькі на пачатку нашага стагоддзя ўпершыню сказалі аб ім сваё важкае слова самі беларусы. Сапраўдны паход творчай інтэлігенцыі за вяртанне нацыянальных скарбаў мінулага працягваўся да 1925 года. Новы этап у даследаванні спадчыны першадрукара і асветніка пачаўся ў другой палове 50-х гадоў, хаця і тут шматлікія публікацыі і пашырэнне тэматыкі даследаванняў не ратавалі скарыназнаўства ад застою. Аўтар зазначае, што відавочныя зрухі ў гэтым кірунку пачаліся ў Беларусі ў сярэдзіне 80-х.**

**Па-ранейшаму спрачаюцца вучоныя і пісьменнікі па многіх, на жаль, малавядомых момантах жыцця Ф. Скарыны. Кім лічыць яго—«візантыйцам» або «еўрапейцам», праваслаўным ці каталікам — ніхто дакладна не можа адказаць і сёння. Але сусветная пашана яму за тое, што ён шукаў агульначалавечую праўду на Усходзе і на Захадзе, «каб вывіць яе на свой беларускі лад, падараваць народу Біблію на роднай мове, далучыць яго да святла агульначалавечай культуры ў яго нацыянальнай хаціне».**

**Д. БАБАК.**

*ПІШУЦЬ ЗЕМЛЯКІ*

# ГАЗЕТА ЛУЧЫЦЬ З РАДЗІМАЙ

Паважаная рэдакцыйная калегія «Голасу Радзімы»! Сардэчна дзякую вам за ветлівае запрашэнне напісаць аб нашай ацэнцы работы газеты. Праз «Голас Радзімы» мы маем лучнасць з Радзімай, бо ведаем, што на ёй дзеецца: яе прагрэс (з чаго цешымся), і бедствы, як чарнобыльская аварыя (праз што сумуем, у такім вялікім няшчасці апынуўся наш гаротны народ). А калі вы пішаце аб парках ці курортных мясцовасцях, дык заахвочваеце нас да наведання Радзімы. Я асабіста збіраюся ў траўні наступнага года ўжо другі раз наведаць бацькаўшчыну і сваякоў.

Мы, беларусы ў Канадзе, ганарымся нашай Радзімай—Беларуссю, бо яна ёсць культурная і індустрыяльная краіна. Аб гэтым найболей сведчаць вялікія трактары «Беларусь», якія тут у нашай правінцыі прадаюцца і карыстаюцца поспехам. І вось я на фота стаю каля гэтых трактароў, дзе і пазнаёміўся з механікамі з Беларусі.

Я асабліва дзякую спадарыні Дзіяне Чаркасавай за гасціннае прыняцце нас з сынам у рэдакцыі, за цікавае напісанне ў «Голасе Радзімы» пра нашы адведзіны.

Я з'яўляюся чытачом «Голасу Радзімы» больш 10 гадоў, а атрымліваю газету толькі 3 гады. І далей збіраюся выпісваць вашу газету, толькі вытлумачце, як пасылаць грошы з-за мяжы? На які рахунак?

Застаюся з павагай да вас ваш сталы чытач

**Якуб РАПЕЦКІ.**

Канада, Саскатун.




РАЗВАЖАННІ ПУБЛІЦЫСТА

# ДЫК ШТО З НАМІ СТАЛАСЯ І КУДЫ НАМ ІСЦІ?

ШОСТЫ год перабудовы, і ў нас накапіўся немалы ўжо вопыт. Праўда, не столькі радасны, колькі сумны. Перабудова недаравальна зацягнулася: для Амерыкі гэта было б ужо паўтара прэзідэнцкія тэрміны. Цэлы гістарычны перыяд з пачаткам, сярэдзінай і канцом. А ў нас усё яшчэ толькі пачатак, ды й то няясна чым жа ён скончыцца. І прытым, што ні дзень, то нечаканасць, таксама часцей за ўсё непрыемная. Але разам з тым і пэўныя заканамернасці можна разгледзець няўзброеным вокам, хоць і зноў-такі ў выглядзе невясёлых парадоксаў. Наступіла свабода, а есці няма чаго. Пераходзім да рынку, а ў крамах паліцы пустыя. Аб'яўлена аб недатыкальнасці асобы, а на вуліцы ўвечары вас могуць пабіць, а то і зусім прыкончыць... Уводзіцца дэмакратыя, а духоўная культура, мараль, эстэтычныя густы імкліва пакаціліся ўніз.

Думаецца, аднак, было б вялікай памылкай лічыць, што ўсё гэта прычыны і вынікі. Так бы мовіць, свабода, таму і есці няма чаго і гэтак далей. Так лічаць зусім ужо непісьменныя людзі ды нашы местачковыя «чорныя» палкоўнікі. Калі разважаць гэтак, дык усё можна было б зваліць і на іх саміх, гэтых «чорных» палкоўнікаў, ды камуністаў. Гэта яны, маўляў, давялі нас. Але справа куды больш складаная.

Пакінем эканоміку і палітыку эканамістам ды палітолагам і паглядзім больш уважліва на праблему «дэмакратыя і культура». Сапраўды, наша культура зараз перажывае страшэнны крызіс. Асабліва датычыць гэта беларускай культуры. Нехта з публіцыстаў пісаў нават з горыччу, што яна наогул знаходзіцца ўжо ў стане клінічнай смерці. Балюча чытаць такое. Калісьці ж яна была жывой і здаровай, і не толькі ў скарынінскія часы, яе залаты век! Расцвітала яна і ў часы нашаніўскага Адраджэння, існавала і ў дваццатых, паслярэвалюцыйных гадах. Добра вядомы і далейшы яе трагічны лёс: крывавае вынішчэнне пад маркай так званай «нацдэмаўшчыны», заснежаны ў калючым дроце архіпелаг ГУЛАГ. Але было б усё ж вялікім спрашчэннем думаць, што культура наша нішчылася нейкім чужым і варожым наяздоўцам накшталт колішняга Чынгіс-хана. Нішчылася і руская культура. Чэкісцкія каты нішчылі, урэшце, і саміх сябе. Усё гэта нагадвала нейкага сярэдневяковага цмока, які пажырае ўласнае тулава, пачынаючы з хваста. Тут сапраўды праглядвае нейкая д'ябальская заканамернасць, якую адчуваў ужо народ, ствараючы вядомую прымаўку: дарога ў пекла вымашчана добрымі намерамі. Ведалі яе і вялікія філосафы. Агульнавядомы гегелеўскі афарызм аб тым, што ўсё больш-менш значнае ў гісторыі з'яўляецца двойчы: спачатку ў трагічнай форме, а пасля ўжо ў форме камічнай. Яго пяру належыць і другая, гэтак жа трапная і глыбокая думка: усякая ісціна нараджаецца як гэрась, а памірае як догма. Адна і тая ж ісціна!

Горка было, напрыклад, чуць, як адзін расійскі тэлежурналіст правodзіў прамую лінію ад Веры Фігнер да Лаўрэнція Берыі. Альбо як другі, на гэты раз ужо літаратурны крытык, абвясціў Маякоўскага звычайным кан'юнктуршчыкам. Як можна мысліць такім чорна-белым спосабам, гэта ж зусім, здавалася б, процілеглыя рэчы! Але тыя ж філосафы сцвярджаюць, што процілегласці зыходзяцца. І сапраўды, крывавы кат Берыя, калі і не спасылаўся, дык у прынцыпе мог спаслацца на вялікую Веру Фігнер, а Маякоўскі, калі і не быў сам кан'юнктуршчыкам, дык такіх спарадзіў і спарадзіў нямала. Ды і ўвогуле, ці ж не тое самае адбылося з усімі намі за гэтыя злашчасныя семдзесят год? Вось ужо што праўда то праўда: пачыналі з трагічнага гераізму, а скончылі нават не камічным, а нізкім. Даволі ўспомніць кінафільм сучаснага рэжысёра С. Гаварухіна «Так жыць нельга». Што ж з намі сталася?

А сталася, думаецца, вось што. Кіруючыся тым самым добрым намерам, мы паставілі сабе мэтай пабудаваць нейкае новае грамадства, дзе чалавеку жылося б намнога лепей і больш шчасліва, чым у мінулыя часы. І тут зрабіла сваю справу ўсё тое ж чорнабелае мысленне, тое ж шараханне думкі. Калі ў мінулым усе беды паходзілі ад эгаістычнага індывідуалізму, ад прыватна-індывідуальнай уласнасці, ад групавога індывідуалізму ў выглядзе нацыяналізму і шавінізму, кінуліся ў іншую крайнасць. І ўхапіліся за ідэю зусім процілеглага характару, ідэю абстрактна-утапічную, згодна якой шчасце чакалася ад суцэльнага калектывізму, абагульненай уласнасці, агульначалавечага так званага інтэрнацыяналізму. Гэта якраз і была камуністычная ідэя, якая прыходзіла ў галаву яшчэ Платону, знакамітаму старагрэчаскаму філосафу, а пазней аб ёй думалі Кампанела, Томас Мор, Сен-Сімон і Фур'е. Захапіла яна і маладых Маркса з Энгельсам, калі яны пісалі свой «Маніфест Камуністычнай партыі». Але і яны ўбачылі абстрактную крайнасць і утапізм камуністычнай ідэі і, імкнучыся перавесці яе на рэйкі навуковага мыслення, спрабавалі засяродзіць пазней сваю ўвагу на ідэі сацыялізму, адсунуўшы камунізм у неакрэсленую будучыню. Еўрапейскія іх паслядоўнікі на гэтай аснове распрацавалі сацыял-дэмакратычную тэорыю, якая ўжо старалася пазбягаць утапічных крайнасцей і на аснове дэмакратыі неяк ураўнаважыць грамадства і асобу, дзяржаўнае і прыватнае, агульначалавечае і нацыянальнае, арыентуючыся ўжо не на светлую будучыню, а на рэальную сучаснасць. Тэорыя гэта з поспехам праводзілася і праводзіцца ў жыццё ў еўрапейскіх краінах і зараз, дзе меліся неабходныя сацыяльныя абставіны: перш за ўсё развітая прамысловасць і высокі культурны ўзровень.

Зусім іначай разыгрывалася драма гісторыі на прасторах

(Заканчэнне на 7-й стар.).

## ВІНШАВАННІ

**Паважаныя члены прэзідыума Беларускага таварыства «Радзіма» і рэдакцыйнай калегіі газеты «Голас Радзімы»!**

**Сардэчна віншуем вас і ўвесь беларускі народ з надыходзячым Новым годам. Ад усёй душы жадаем вам добрага здароўя, шчасця, дабрабыту, няхай 1991 год прынясе вам самы добры ўраджай і мір на зямлі.**

**Усяго вам добрага, дарагія таварышы!**

**Ад імя праўлення і членаў таварыства «Луна» з Амстэрдама**

**В. ПОРТЭНГЕН-ТКАЧЭНКА.**

Нідэрланды.

**Сардэчна віншуем усіх супрацоўнікаў таварыства «Радзіма» і газеты «Голас Радзімы» з надыходзячым 1991 годам! Жадаем моцнага здароўя, поспехаў у вашай высакароднай працы на карысць чалавецтва!**

**У нас усё памалу, жывём, старэем, бо ўзрост сваё бярэ. Жадаем вам усяго толькі добрага, хоць мы і ўдалечыні ад Радзімы, але з глыбокім пачуццём падтрымліваем вашу перабудову.**

**Сям'я КУПЕРУС-МАРЧАНКІ.**

Нідэрланды.

**Паважаныя сябры!**

**Віншуем вас з Новым, 1991 годам. Жадаем усім моцнага здароўя, дабрабыту ў сям'і, поспехаў у працы. А таксама спакою і стабільнасці ўсёй нашай краіне, каб пераадолела яна цяжкасці і супярэчнасці.**

**З надзеяй на сустрэчу з Радзімай у 1991 годе**

**члены клуба «Родник».**

Дамаск, Сірыя.

**Паважаныя супрацоўнікі Беларускага таварыства «Радзіма» і рэдакцыі газеты «Голас Радзімы»!**

**Ад імя групы «Руска-Славянскага культурнага таварыства» дасылаем вам сардэчныя віншаванні з Новым, 1991 годам!**

**Ад усёй душы жадаем вам, вашым сем'ям і ўсяму савецкаму народу моцнага здароўя, шчасця, далейшых поспехаў у справе перабудовы, барацьбы за мір і ўмацавання дружбы паміж усімі народамі свету.**

**Дазвольце падзякаваць усім вам за газету «Голас Радзімы», якую чыталі і чытаем з вялікай цікавасцю.**

**Са шчырай павагай**

**Н. ЧАРАПАНАВА,**
**Н. ХРАНКОЎ.**

Аўстралія.

# АД «ПОЛАЦАКА» ДА «АРАЎ-ПАРКУ»

**(Пачатак на 1-й стар.).**

Ведаю па мінулай паездцы гасціннасць Сяргея, яго адмысловыя здольнасці сустрэць і паклапаціцца пра чалавека, але тут, мусіць, трохі сумеўся і ён ад такой вялікай колькасці гасцей. А іх як-ніяк цэлы аўтобус. Да нашай дэлегацыі таварыства «Радзіма», куды ўваходзілі ўдзельнікі ансамбля народнай музыкі «Жывіца», прадстаўнікі таварыства Анатоль Абрамчык і Уладзімір Навіцкі, журналіст Белдзяржтэлерадыё Сяргей Булацкі і аўтар гэтых нататкаў, у Нью-Йорку далучылася вялікая група нашых землякоў, якія прыляцелі ў ЗША крыху раней. Сярод іх намеснік старшыні сойма Беларускага народнага фронта «Адраджэнне», доктар фізіка-матэматычных навук Юры Хадыка, народны дэпутат Беларусі, старшыня камітэта БНФ «Дзеці Чарнобыля» Генадзь Грушавы, паэты Сяргей Панізнік і Сяржук Сокалаў-Воюш, старшыня савецка-амерыканскай навукова-тэхнічнай арганізацыі «Дэльта» Аляксей Палунін, дырэктар беларускамоўнага дзіцячага садка ў Мінску і кіраўнік аматарскага тэатра «Золак» Галіна Прыма, намеснік старшыні Саюза кааператываў Беларусі Ігар Блізнюк, дырэктар мінскай музычнай школы Галіна Левашкевіч, старшыня клуба «Спадчына» Анатоль Белы, студэнтка філалагічнага факультэта БДУ імя У. І. Леніна Аліна Мяснікова, прадстаўніца арганізацыі «XXI стагоддзе» Тамара Сушко і іншыя асобы.

Мэтай прыезду такой сапраўды прадстаўнічай дэлегацыі былі ўдзел у XIX сустрэчы беларусаў Паўночнай Амерыкі і знаёмства з беларускімі суполкамі ў ЗША.

— Перадыхніце, адпачніце з дарогі,— турбуецца С. Карніловіч,— хутка паедзем у атэль, а пакуль што паглядзіце наш новы цэнтр.



Прызнацца, мяне збянтэжыла тое, што за 3 дні да адкрыцця XIX сустрэчы беларусаў Злучаных Штатаў Амерыкі і Ка[illegible], далёка не ўсе будаўнічыя [illegible]ты ў цэнтры былі заверш[illegible]ны: завіхаліся сталяры, тынкоўшчыкі, электрыкі, паклейшчыкі шпалераў... Як на нашы тэмпы, то працы тут было сама меней на тыдзень...

— Не хвалюйся,— ра[illegible]ў мае сумненні Сяргей,— [illegible]з два дні ўсё будзе о'кэй!..

І сапраўды, той, хто прыехаў на сустрэчу ў дзень яе адкрыцця — 1 верасня — той, вядома ж, і не здагадаўся нават, якая работа кіпела тут напярэдадні...

Усяго адзін год спатрэбіўся беларусам, каб пабудаваць свой новы прасторны цэнтр. На гэта давялося патраціць без малога 1 мільён долараў. Створаны па арыгінальнаму праекту архітэктара Зорана Гарадзіцкага, будынак у плане ўяўляе сабой правільны чатырохкутнік памерам 100×120 футаў (1 фут=0,3048 метра). Новы цэнтр забяспечаны самым сучасным інжынерна - тэхнічным абсталяваннем і прызначаны для правядзення з'ездаў, канферэнцый, сімпозіумаў, дзелавых сустрэч. Зрэшты, функцыянальныя магчымасці «Полацака» гэтым не абмяжоўваюцца: пры невялікай перастаноўцы залу можна здаваць у арэнду для наладжвання вечароў адпачынку, вяселляў і г. д., што будзе прыносіць істотны прыбытак у грамадскую касу. Паколькі падобныя мерапрыемствы ў амерыканскіх кафэ ці рэстаранах звычайна не праводзяцца, то недахопу ў заказчыках не будзе. Такім чынам, ёсць надзея, што з цягам часу будынак акупіць калі не ўсе, то, прынамсі, частку фінансавых сродкаў, што пайшлі на яго стварэнне...

Клопат пра ўнутранае ўбранства новага беларускага дома ўзяў на сябе мастак з Беласточчыны Янка Салавянюк. У Польшчы яго ведаюць, як здольнага і кваліфікаванага спецыяліста ў жанры царкоўнага жывапісу. Работы Салавенюка — абразы (алей, тэмпера, каляровыя драўляныя рэльефы), выкананыя ў традыцыях праваслаўнага беларускага жывапісу XIII—XIV стагоддзяў, і серыя карцін, прысвечаных беларускаму першадрукару Ф. Скарыне, надзвычай арганічна ўпісваюцца ў інтэр'ер «Полацака», выклікаючы ў гледача глыбокія асацыяцыі і роздум пра нашу гісторыю і нашы духоўныя карані...

Цырымонія адкрыцця новага Беларускага грамадска - культурнага цэнтра і XIX сустрэчы беларусаў Паўночнай Амерыкі пачынаецца апоўдні першага верасня. Усе госці і гаспадары збіраюцца на пляцоўцы перад фасаднай часткай палаца. Чуюцца словы каманды, і да флагштокаў, чаканячы крок, накіроўваюцца прадстаўнікі трох відаў войск амерыканскай арміі. Пад гукі дзяржаўнага гімна ЗША і песні-гімна «Мы выйдзем шчыльнымі радамі» павольна плывуць увысь два сцягі: амерыканскі і наш бел-чырвона-белы.

Старшыня Кліўлендскага аддзела Беларуска-амерыканскага Задзіночання (БАЗА) Янка Ханенка абвяшчае XIX сустрэчу адкрытай і просіць перш-наперш выступіць гасцей з Беларусі. З кароткімі прывітальнымі прамовамі да прысутных звяртаюцца намеснік старшыні таварыства «Радзіма» У. Навіцкі, намеснік старшыні сойма БНФ «Адраджэнне» Ю. Хадыка, пастаянны прадстаўнік Беларускай ССР пры Арганізацыі Аб'яднаных Нацый Г. Бураўкін, прадстаўнік беларусаў з Беласточчыны доктар Міранові́ч, старшыня клуба «Спадчына» А. Белы, прадстаўніца беларуска-амерыканскай арганізацыі «XXI стагоддзе» Т. Сушко. Гаспадары «Полацака» з удзячнасцю прымаюць падарункі з Бацькаўшчыны. Гэта энцыклапедыі, кнігі па мастацтву, выдадзеныя апошнім часам у Мінску, карціны нашых мастакоў, творы беларускіх пісьменнікаў, грампласцінкі з запісамі нашых папулярных ансамбляў «Свята» і «Купалінка».

**Леанід КАЗЫРА.**

**(Працяг будзе).**



**НА ЗДЫМКАХ: адкрыццё новага будынка Беларускага культурнага цэнтра ў «Полацаку»; з прывітаннем выступае намеснік старшыні Беларускага таварыства «Радзіма» Уладзімір НАВІЦКІ.**

**Фота А. АБРАМЧЫКА.**

*ПРАБЛЕМЫ І МЕРКАВАННІ*

# ЦІ МОЖА БЫЦЬ ГОЛАД У КРАІНЕ, ДЗЕ ЁСЦЬ СВАБОДА ДРУКУ?

Такое некалькі парадаксальнае, на першы погляд, пытанне дэбатавалася на адной з дыскусій у Маскве ў рамках IX Міжнароднай канферэнцыі прадстаўнікоў сродкаў масавай інфармацыі, прысвечанай тэме: «Усход—Захад: канец канфрантацыі». Яе арганізатары—Фонд Алердзінка са штабкватэрай у Амстэрдаме, Массавет і Інфармацыйнае агенцтва «Навіны». Зрэшты, само з'яўленне гэтага пытання тлумачылася тым, што дыскусія, пра якую ідзе гутарка, сфакусіравала сваю ўвагу на праблеме, непасрэдна з ім звязанай—«Сродкі масавай інфармацыі і дэмакратыя».

У разглядзе гэтай праблемы, якая аказалася, бадай, адной з найбольш складаных сярод тых, што абмяркоўваліся на маскоўскім форуме, удзельнічалі такія вядомыя дзеячы, як, напрыклад, Роберт Маноф (ЗША), прэзідэнт Цэнтра вывучэння вайны, міру і сродкаў масавай інфармацыі, Гюнтар Ноненмахер (Германія), галоўны рэдактар газеты «Франкфуртэр Альгемайне», Джым Хоглэнд, аглядальнік амерыканскай газеты «Вашынгтон пост», Пер-Эрык Лёнфорс (Фінляндыя), старшыня Міжнароднага інстытута друку, Ягор Якаўлеў, галоўны рэдактар штотыднёвіка «Московские новости» і шэраг іншых.

Характэрна, што сёння, у эру галоснасці, прамовы выступаўшых часам гучалі так, што калі б не ведаць, хто прамоўца,—можна было б падумаць, што савецкія ўдзельнікі гавораць у заходнім ключы, а заходнія—у савецкім. Я. Якаўлеў, скажам, наракаў, што далёка не ўсе тэмы для ўдзельнікаў дыскусіі могуць быць агульнымі, паколькі ва ўмовах, калі прававая дзяржава ў нас яшчэ толькі ствараецца, само паняцце свабоды друку ў дэмакратыі, якая толькі нараджаецца, мае пэўную спецыфіку. Зрэшты, дыскусіі, па яго словах, гэта не перашкаджае, бо ідзе працэс зближэння з Захадам, а значыць, на парадку дня з'яўляюцца і такія пытанні, як утварэнне свабоднага рынку сродкаў масавай інфармацыі або адбор навін, немагчымы ў ранейшыя гады, калі, па сутнасці, адбіраць не было з чаго і цэнтральныя газеты, скажам, «Правда» і «Известия», выглядалі сапраўднымі блізнятамі.

З другога боку, у выступленні Р. Манофа прагучала такая выцверажальная нотка: не варта празмерна спадзявацца на тое, што, змяніўшы дыктат дзяржавы на дыктат рынку, павярнуўшыся, так сказаць, на сто восемдзесят градусаў, савецкія сродкі масавай інфармацыі могуць разлічваць адразу вырашыць усе свае праблемы. Калі ацэньваць заходні «рыначны» друк па вышэйшаму крытэрыю выніковасці, дык у яго нямала недахопаў, найбольш сур'ёзным з якіх, на думку аўтара, з'яўляецца здзіўляючая часам недасведчанасць чытачоў. У Амерыцы, да прыкладу, апытанні грамадскай думкі выявілі проста-такі «процьму невуцтва», асабліва ва ўсім, што тычыцца жыцця за рубяжом. У нейкай меры, лічыць ён, гэта ж тыпова і для радавых грамадзян Еўропы, якія не ведаюць, напрыклад, дзе знаходзіцца Масква, але затое перакананы ў тым, што Манака — адна з савецкіх рэспублік...

У галоўным, аднак, удзельнікі дыскусіі былі адзіныя: у краінах, што сталі на шлях дэмакратыі, або тых, дзе дэмакратыя мае ўжо вялікі стаж, людзі ў аднолькавай ступені зацікаўлены ў тым, каб прэса давала ім, па словах Розмары Райтэр з лонданскай газеты «Таймс», самую «надзейную інфармацыю». Няхай яна і не можа быць поўнасцю аб'ектыўнай (людзі ёсць людзі), але павінна імкнуцца да гэтага. Зараз для Усходняй Еўропы і СССР, заявіла Р. Райтэр, гэта задача выходзіць на першы план і ў многім прадвызначае поспех або няпоспех рэформ, якія праводзяцца. Менавіта яна працытавала словы аднаго з выступаўшых у час папярэдняй дыскусіі пра тое, што калі ў краіне ёсць свабодная прэса, дык там не можа быць голаду.

Інфармаванасць людзей служыць справе дэмакратыі, пры якой народ па-сапраўднаму мае дачыненне да кіравання і можа зрабіць неабходныя захады для прадухілення голаду, крызісных з'яў у эканоміцы і да т. п. У дні, калі савецкая эканоміка, як вядома, якраз і перажывае падобны крызіс, пытанне гэта, згадзіцеся, набывае ўжо не абстрактны, а вельмі актуальны характар.

Дарэчы, тая кампанія дапамогі савецкім людзям, якая зараз разгарнулася на Захадзе—у многім дзякуючы стараннням сродкаў масавай інфармацыі,—падверглася даволі вострай крытыцы. І зусім не з боку савецкіх удзельнікаў канферэнцыі, а з боку вядомай амерыканскай журналісткі Флоры Льюіс з «Нью-Йорк таймс», на думку якой сітуацыя ў нашай краіне зусім не такая, каб гаварыць аб масавым голадзе і пасылаць у СССР харчовыя пасылкі. «Гэта зневажальна, — заявіла яна,—і зусім не выклікае пачуцця ўдзячнасці ў тых, хто атрымлівае дапамогу, а таксама не прымусіць іх саміх добра працаваць». Да пункту погляду Ф. Льюіс далучыўся Я. Якаўлеў, прадэманстраваўшы тым самым, што кансенсус паміж прадстаўнікамі СМІ Захаду і Усходу не толькі пажаданы, але і магчымы.

**Юрый КАЦНЕЛЬСОН.**

*ПАГАВОРЫМ ПА ШЧЫРАСЦІ*

# ЧАМУ ПРЫЦІХЛІ МУЗЫ,.. альбо ЗАЧЫНЕНА НА ІНВЕНТАРЫЗАЦЫЮ

З ДОКТАРАМ ФІЛАЛАГІЧНЫХ НАВУК ЛІТАРАТУРАЗНАЎЦАМ МІХАСЁМ МУШЫНСКІМ ГУТАРЫЦЬ НАШ КАРЭСПАНДЭНТ ТАЦЦЯНА АНТОНАВА

**— Мы перажываем вельмі цяжкі час: эканамічны крызіс, рост злачыннасці, упадак культуры, няпэўныя перспектывы развіцця грамадства... Атмасфера надзвычай напружаная і выбухованебяспечная. Таму, мабыць, нават такія выданні, як «Литературная газета», «Літаратура і мастацтва» ўласна літаратуры і літаратурнаму працэсу прысвячаюць даволі мала месца. Асноўная ўвага — балючым праблемам жыцця. Скажыце, якое ж месца ў наш час усеагульнай палітызацыі займае мастацкая літаратура ў жыцці чалавека?**

— Наша грамадства моцна запалітызавалася. Варта толькі ўключыць тэлевізар, радыё, разгарнуць любы часопіс, газету і можна пераканацца ў гэтым. Усё прыйшло ў рух. Людзі шукаюць выйсце з той сітуацыі, у якой апынулася краіна. Старыя структуры дэманціраваны, новыя яшчэ не пабудаваны. І вось у гэты пераходны перыяд літаратура адступіла на другі план. Няўмольная статыстыка зарэгістравала падзенне цікавасці да мастацкай літаратуры. Думаю, што з'ява гэта часовая і ўспрымаць яе трэба па-філасофску. Што я маю на ўвазе? Ну хаця б тое, што сама гэта з'ява — вынік паслаблення духоўнасці ў грамадстве. Людзі развучыліся чытаць літаратуру. Не сакрэт, што ў многіх сем'ях не існуе традыцыі чытання. Кнігі для прэстыжу стаяць на паліцы, але іх не кранаюць. Няма звычкі да зносін з кнігай, павагі да слова, да прыгожага пісьменства.

Я нярэдка сустракаюся з маладымі людзьмі, якія не атрымалі гуманітарнай адукацыі, і заўсёды дзіўлюся таму, што яны, увогуле добрыя спецыялісты: інжынеры, кіраўнікі, будаўнікі — не маюць эстэтычнага густу, пачуцця прыгажосці, не разумеюць мастацтва. Як быццам нарадзіліся на іншай планеце і ўсе з'явы і рэчы разумеюць неяк па-свойму—утылітарна, прагматычна. Становіцца, дарэчы, зразумелым, чаму ў выніку іх гаспадарчай дзейнасці моцна церпіць прырода, з'яўляюцца на свет вырабы, на якія брыдка глядзець. Калі ж пашукаць прычыны нашай усеагульнай безгаспадарчасці, то выявіцца, што адна з іх у адсутнасці ў людзей культуры, недастатковасці гуманітарнай адукацыі. На жаль, у параўнанні з іншымі прадметамі як у школе, так і ў вышэйшых навучальных установах літаратура займае мізэрнае месца.

**— Калі ўжо гаворка зайшла пра выкладанне літаратуры ў агульнаадукацыйнай школе, то хацелася б вам нагадаць, што сённяшнія вучні карыстаюцца такім патрыярхальным, маральна састарэлым падручнікам, з якога цяжка ўвогуле што-небудзь зразумець. Адсутнічаюць імёны, творы, цэлыя эпохі, многа няпраўды, замоўчвання. Больш таго, сама трактоўка і ацэнка твораў у гэтых падручніках нярэдка выклікае ўнутраны пратэст і настаўнікаў, і вучняў. Гэта і не дзіўна. На шляхах нацыянальнага Адраджэння адбываецца працэс пераасэнсавання гісторыі, культурнай спадчыны. Як гэты працэс пераасэнсавання ідзе ў літаратуры?**

— Безумоўна, нашы дзеці маюць вельмі недасканалыя падручнікі па роднай літаратуры. Нельга не пагадзіцца, што яны зусім не адпавядаюць патрабаванням часу. Група супрацоўнікаў Інстытута літаратуры АН БССР працуе зараз над альтэрнатыўнай праграмай па беларускай літаратуры для агульнаадукацыйнай школы. У ёй мы хацелі б адысці ад заштампаванага погляду, ад спрошчанасці. Спрошчанасць, дарэчы, характэрная была ўсяму савецкаму літаратуразнаўству. За што мы цанілі твор? За тое, як глыбока, востра ў ім была паказана класавая барацьба. І чым вастрэй яна была—тым больш высока ацэньваўся твор. Гісторыя паказала нам, што такі падыход памылковы, што ў аснове павінен ляжаць не класавы падыход, а агульначалавечыя каштоўнасці. Прыярытэт агульначалавечых каштоўнасцей пацверджаны вопытам усёй літаратуры, і не толькі беларускай. Таму мы зараз павінны наганяць страчанае. Значыць, у аснову літаратуразнаўчага аналізу павінны быць пакладзены такія крытэрыі, як самакаштоўнасць жыцця, самакаштоўнасць чалавечай асобы і нацыянальная адметнасць літаратуры. Важна яшчэ, на мой погляд, не падмяняць нашу мадэль гісторыі літаратуры мадэллю іншых літаратур, скажам, той жа рускай.

Калі я ўжо сказаў пра напісанне новай гісторыі беларускай літаратуры, куды будуць вернуты дзесяткі твораў пісьменнікаў, абвінавачаных у свой час у так званай нацдэмаўшчыне і ў антысаветызме і г. д., то ніяк нельга абысці тут нашу эмігранцкую літаратуру. Існуючы, яна як бы не існавала для беларускага савецкага літаратуразнаўства і для чытача адпаведна. Нават прааналізаваць яе навукоўцы не маглі, бо ўстаноўка была, што аўтары-замежнікі — ідэйна чужыя нам людзі, ворагі. Што з гэтага атрымалася? Абакралі самі сябе. Сёння рашуча пераглядаем пазіцыі, нашы былыя ацэнкі, аддаючы належнае і тым аўтарам, што жылі і тварылі за мяжой. Апынуўшыся ў чужым асяроддзі, неўладкаваныя, яны, тым не менш, пісалі на роднай мове, выкарыстоўваючы яе неўміручыя багацці. Сучасны беларускі чытач павінен ведаць літаральна ўсё, што напісана на беларускай мове. Вядома, ацэнка павінна быць—разважлівая, узважаная, без залішняга ўсхвалення і без прыніжэння. Самы шырокі чытач павінен пазнаёміцца з творамі Юркі Віцьбіча, Янкі Ліманоўскага, Уладзіміра Сядуры, Наталлі Арсеньевай, Масея Сяднёва...

Вось яшчэ што хочацца заўважыць. Пры аналізе твораў літаратуразнаўцы павінны ісці ад спецыфікі беларускага жыцця, ад спецыфікі нацыянальнай гісторыі. І толькі тады, калі наша гісторыя літаратуры адэкватна перадасць гісторыка-літаратурны працэс, толькі тады мы напішам праўдзівую, аб'ектыўную навуковую гісторыю. А пакуль ідзе інтэнсіўны працэс пераасэнсавання, інвентарызацыі ў нашым літаратурным цэху.

**— Шаноўны Міхась Іосіфавіч, а пры такой грунтоўнай інвентарызацыі ў літаратуры ці не мяркуецца выкінуць нейкія імёны на сметнік, а на іх месца паставіць іншыя?**

— Ніколі не трэба даводзіць да абсурду любую ідэю. Ніхто не збіраецца нікога выкідаць на сметнік гісторыі. Проста кожны пісьменнік павінен быць ацэнены аб'ектыўна. А новае прачытанне твораў не азначае, што знак плюс проста памяняецца на мінус. Пры разглядзе і аналізе твора трэба застацца на прынцыпах гістарызму. Што гэта азначае? Не пераносіць сённяшнія нашы патрабаванні на той час, калі жыў і працаваў аўтар пэўнага твора. Мы не маем права абвінавачваць аўтара ў тым, што ён пісаў не так, як бы нам хацелася. Але гэта не азначае, што мы не павінны па-навуковаму ацаніць ім напісанае. Калі пісьменнік у сілу аб'ектыўных ці суб'ектыўных прычын не здолеў даць аб'ектыўны малюнак рэчаіснасці, то мы і абавязаны сёння сказаць, што ён—неаб'ектыўны. Зразумела, былі розныя пісьменнікі. Адны супраціўляліся ўціску таталітарнай сістэмы, імкнуліся застацца на высокім узроўні гуманістычных уяўленняў аб тым, што сцвярджае літаратура, якой яна павінна быць. Менавіта такім быў Міхась Зарэцкі. У яго рамане «Вязьмо», у прыватнасці, упершыню ў беларускай літаратуры праведзена думка аб немэтазгоднасці суцэльнай калектывізацыі. А такі твор, як раман «Запіскі Самсона Самасуя» Андрэя Мрыя, мы абавязкова павінны зрабіць здабыткам шырокай грамадскасці. Гэты твор, дарэчы, паказвае на высокі ўзровень духоўнасці нашай літаратуры, узровень сталасці нацыянальнай інтэлігенцыі, якая разумела, што адбываецца ў краіне на самай справе. Новае прачытанне, паўтару, павінна заняць адно з самых галоўных месцаў, і не толькі ў навуковых выданнях, але і ў перыёдыцы, часопісах. Бо на гэтым людзі вучацца новаму мысленню, выпрацоўваюць новы погляд на чалавека, на жыццё. Яны вызваляюцца ад старых уяўленняў, што прышчэпліваліся дзесяцігоддзямі. Але гэта трэба пераадольваць. Інакш нам вельмі цяжка будзе адчуць сябе вольнымі грамадзянамі суверэннай рэспублікі, зажыць так, як належыць цывілізаванаму чалавеку.

**— Вельмі гучна ў апошнія гады заявіла пра сябе новая генерацыя маладых пісьменнікаў. Я маю на ўвазе таварыства «Тутэйшыя» і тых, хто гуртаваўся вакол іх. Само таварыства распалася, але яго былыя члены даволі плённа, як мне здаецца, працуюць на ніве нацыянальнага прыгожага пісьменства. Чаго можна чакаць ад гэтага літаратурнага папаўнення?**

— Даволі многа прыйшло ў літаратуру моладзі, якая ў нечым праяўляе і залішнюю самаўпэўненасць. Але ў той жа час працэс іхніх пошукаў даволі плённы і можа прынесці многа карыснага і цікавага. Назаву імёны Анатоля Сыса, Сержука Сокалава-Воюша, Алега Мінкіна, Алеся Наварыча, Віктара Шніпа, Адама Глобуса, Людмілы Рублеўскай, Алеся Асташонка, Уладзіміра Сцяпана, Сяргея Дубаўца, Сяргея Кавалёва, Міхася Скоблы, Алеся Бадака, Вольгі Куртаніч, Міраслава Шайбака, Славаміра Адамовіча. Маладыя шмат друкуюцца ў «Крыніцы». Старэйшыя пісьменнікі даволі насцярожана ставяцца да іх, лічаць, што «хлопчыкам» яшчэ доўга і многа трэба працаваць, каб узняцца да ўзроўню сапраўднага літаратара. Я згодны з тым, што маладым і сапраўды яшчэ трэба працаваць і больш крытычна ставіцца да сваёй творчасці. Але мяркую, што ў іх, маладых, ёсць сваё бачанне жыцця, свой погляд на рэчаіснасць. І ён у іх не зашораны, у іх ёсць тое, чаго не было ў таго пакалення, якое фарміравалася ў часы культу асобы, у часы застою. Усё ж такі псіхалогія страху, боязі, нясмеласці мела месца. Моладзь вольная ад гэтага. Таму я з вялікай надзеяй гляджу на нашу маладую літаратурную змену.

**— Міхась Іосіфавіч, мне, як журналісту, даводзіцца сустракацца і гутарыць з самымі рознымі людзьмі. І нярэдка, завёўшы гутарку пра літаратуру, субяседнікі даволі скептычна выказваюцца. Маўляў, што яны робяць, нашы родныя беларускія пісьменнікі? Жыццё вунь як закруцілася, а яны маўчаць, думаюць: пісаць ці не пісаць. Альбо ўсё пра тую вайну... Ну што пачытаць простаму чалавеку?! Я хацела, каб вы з вышыні свайго разумення літаратуры і жыцця адказалі гэтым чытачам.**

— Кажаце, што просты чытач мае крыўду на беларускага пісьменніка... Няма чаго чытаць? Несправядлівае меркаванне, на мой погляд. Хаця трэба цярпіма ставіцца і да гэтага меркавання. І зразумець яго. Людзі звяртаюцца да літаратуры, як да дарадцы, мяркуючы знайсці там адказы на тыя пытанні, што ставіць жыццё. Але ж мастацкі твор — гэта не газетная публікацыя. Тут патрэбны час для асэнсавання сутнасці тых ці іншых падзей.

Не знаходзячы ў сучаснай беларускай літаратуры адлюстравання сучаснага жыцця, чытач, я думаю, не павінен злавацца або крыўдзіцца. Варта звярнуцца да класікі. Да той жа «Новай зямлі» Коласа, скажам. У ім галоўная ідэя — «купіць зямлю, прыдбаць свой кут, каб з панскіх выпутацца пут». Цікава, што мы, даследчыкі, і школа трактавалі імкненне Міхала набыць ва ўласнасць зямлю як заганнае, памылковае. Глядзіце, колькі прайшло часу, як пісаўся гэты твор, але ж якімі актуальнымі бачацца нам сёння пастаўленыя ў паэме праблемы, узаемаадносіны селяніна з зямлёй.

Сапраўдны твор пішацца не толькі для адказу на сучасныя пытанні. Ён ствараецца як бы навырост.

**— Скажыце, а ці няма ў вас адчування, што паўза ў нашай літаратуры зацягнулася? Пакуль што на свет божы з'яўляецца тое, што створана даўнавата, было ў свой час забаронена. Цяпер жа свабода, плюралізм —толькі пішы...**

— Музы і, праўда, пакуль прыціхлі. Але, на маю думку, трэба ўжо выпрацаваць такі погляд на літаратуру, што ёй нельга навязваць нешта загадзя вызначанае. Літаратура развіваецца паводле сваіх уласных унутраных законаў. Літаратура як форма творчай дзейнасці, форма пазнання — вельмі складаная з'ява. Мы гэтую складанасць не заўсёды разумелі і таму лічылі магчымым стаць над літаратурай, займацца нейкім павучаннем. Заклікалі, накіроўвалі пісьменнікаў. Мне здаецца, што самае галоўнае цяпер — гэта даць магчымасць літаратуры развівацца паводле яе ўласных магчымасцей. Магчымасці нашай літаратуры, я падкрэсліваю, яшчэ далёка не раскрытыя. І я ўпэўнены, што ўсе мы зможам у гэтым пераканацца.

**— Цікавыя і парадаксальныя з'явы адбываюцца ў нашым сучасным жыцці. З аднаго боку — абвешчаны суверэнітэт рэспублікі, дзяржаўнасць беларускай мовы, нацыянальныя прыярытэты. А ў нашых родных беларускіх выдавецтвах, наколькі я ведаю, з вялікай неахвотай бяруцца друкаваць творы беларускіх пісьменнікаў, тыя ж літаратуразнаўчыя, мовазнаўчыя працы. Нават вяртаюць аўтарам рукапісы, якія ўжо сталі ў плане і рыхтаваліся да друку. Маўляў, выдавецтву ад такіх выданняў адны страты...**

— У цывілізаванай краіне мастацтва, культура павінны быць на датацыі, яны не тыя рэчы, якія даюць матэрыяльны прыбытак. Мастацтва, культура павінны забяспечваць грамадства духоўнымі набыткамі, і калі мы перавядзём нашу выдавецкую дзейнасць на гаспадарчы разлік, на рынак, я баюся, што мы загубім і нацыянальную культуру, і справу нацыянальнага Адраджэння, і з нашае перабудовы нічога не выйдзе. Мы, навукоўцы, каб надрукаваць свае працы, павінны плаціць грошы. Грошай у нас, вядома, няма. Тыражы нашых прац невялікія. Ці вынікае з гэтага, што яны нікому непатрэбныя? Ні ў якім разе! Нашыя працы неабходныя выкладчыкам інстытутаў, настаўнікам, студэнтам і ўвогуле ўсяму культурнаму грамадству. Калі разважаць, што толькі тое можа існаваць, што дае прыбытак, то можна прыйсці да поўнага знішчэння культуры. Мастацкія і навуковыя творы павінны мець датацыю дзяржавы. Гэта відавочна. Я думаю, што тут павінны сказаць сваё слова і наш Вярхоўны Савет, і Камісіі па навуцы і культуры, увогуле грамадскасць.

Сітуацыя з беларускамоўнымі выданнямі — хіба яе можна лічыць нармальнай? Спярша людзей на працягу дзесяцігоддзяў адвучвалі ад карыстання беларускай мовай, а цяпер тлумачаць, нібыта гэта людзі не хочуць чытаць. Дык вы ж навучыце. Народ не сам адмовіўся ад беларускай мовы. Я лічу, што тут павінен быць дзяржаўны падыход. Бо ёсць рызыка, што мы зноў будзем адкінуты далёка назад.

